

*Пара у рукі браць паходні,*
*Уставаць, ісці, ноч рассвятляць*
*Янка Купала*

# ПАХОДНЯ

**№ 1(4)**
Жнівень 2000

## Усебеларускі з'езд рашуча выказаўся за незалежную Беларусь

29 ліпеня ў Менску адбыўся Усебеларускі з'езд за незалежнасць. Ён праходзіў у Палацы культуры тонкасуконага камбіната. Замест меркаваных 800 прыехала 1350 дэлегатаў з усіх куточкаў Беларусі. Сярод дэлегатаў я налічыў не менш 20 акадэмікаў і дактароў навук. Былі пісьменнікі, кінарэжысеры, відныя грамадскія дзеячы. Смаргоншчыну прадстаўлялі 6 дэлегатаў: Віктар Туравец, Анатоль Грывіцкі, Часлаў Хвайніцкі, Ірына Вештарт, Таццяна Тумаш і аўтар гэтых радкоў. На з'ездзе прысутнічалі амбасадары Францыі і Польшчы, часовы паверaны ў справах Чэшскай Рэспублікі, першы консул Польшчы ў Беларусі, дэпутат Сойма Літвы, прадстаўнікі дыпламатычных місій.

У зале панавала ўрачыс-тая атмасфера. Паўсюды былі бачны сотні вялікіх і малых бел-чырвона-белых сцягаў.

Працу з'езда адкрыў па-эт і дыпламат Генадзь Бураў-кін, уступнае слова якога заха-піла сэрца кожнага. Усе устаюць. Гучыць беларускі нацыянальны гімн "Магутны Божа". Затым з галоўным дакла-дам выступіў акадэмік Акадэміі навук Беларусі Радзім Гарэцкі. Запомнілася таксама палітычныя прамовы народных паэтаў Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна.

Былі зачытаны прывітальныя тэлеграмы і лісты ад пісьменніка Васіля Быкава, прэзідэнта Чэшскай Рэспублікі Вацлава Гавела, старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Сямена Шарэцкага, старшыні Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Зянона Пазьняка, ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы і многіх іншых.

Кульмінацыйным момантам Усебеларускага з'езда стала ўхвала Акта Незалежнасці. За яго прагаласавалі ўсе дэлегаты.

Такім чынам, з'езд, які доўга рыхтаваўся і пра каторы так многа гаварылі, адбыўся. Ён рашуча выказаўся за незалежную Беларусь.

**Віктар Шоць,**
*дэлегат з'езда.*

## Баставаў агрэгатны завод

30 жніўня баставаў Смаргонскі агрэгатны завод. Прычынай забастоўкі з'явілася затрымка з выплатай зарплаты, якой не атрымлівалі тут тры месяцы.

Такое становішча на заводзе склалася ў сваю чаргу таму, што гэта адно з буйнейшых прадпрыемстваў у Смаргоні мае даўгі з 1999 года і не мае уласных абаротных сродкаў.

**Анатоль Рэчыц**

## АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі, усведамляючы адказнасць за будучыню краіны; нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацый; грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без'ядзерная дзяржава.

Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў, і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх уладаў, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краінаў свету.

Мы - за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй,Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

**СВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі - бела-чырвона-белым сцягам і гербам "Пагоня";

**АБВЯШЧАЕМ**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**ПРЫЗНАЕМ**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта Незалежнасць Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны; парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

***ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!***

*Прынята Усебеларускім З'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Менску.*

## Крэўскія магазіны як люстэрка беларускай эканомікі

Да 1994 года ў мястэчку Крэва было 8 магазінаў: прадуктовы, прамтаварны, мэблевы, уцэненых тавараў, гаспадарчы, кніжны і па прыеме шклотары. Сення іх тут уже толькі 2, прадуктовы і прамтаварны (4 ліквідавалі, а кніжны і гаспадарчы аб'ядналі з прамтаварным).

Нягледзячы на аб'яднанне, большасць паліц ў магазінах засталіся пустымі. Напэўна, каб гэта менш кідалася ў вочы пакупнікам, летось гандлевую залу ў аб'яднаным магазіне паменшылі ў два разы.

*Янка Крывіч*

## Нават каровы, свінні і куры пратэстуюць

Сельскагаспадарчыя прадпрыемствы Смаргошчыны працягваюць зніжаць аб'емы вытворчасці мясамалочнай прадукцыі. Так, рэалізацыя жывелы і птушкі на забой склала за шэсць месяцаў 1443 тоны, што на 39 працэнтаў менш, чым у адпаведным перыядзе 1999 года. Сярэднесутачныя прывагі буйнай рагатай жывелы склалі 283 грамы супраць 366 грамаў летам, свіной 231 грам і скараціліся на 83 грамы. Вытворчасць малака у гаспадарках склала 7705 тон, што складае 76 працэнтаў да мінулага года. Скарацілася вытворчасць малака. Надой ад адной каровы склаў 963 кілаграмы супраць 1204 кілаграмы ў мінулым годзе.

Прычынамі спаду сталі недахоп канцэнтратаў і дрэнная арганізацыя работы на фермах.

**Сцяпан Руткоўскі**

## Не хапае лекараў

На Смаргоншчыне бракуе 26 дактароў і 33 сярэдніх медычных работнікаў. З прычыны іх адсутнасці ў весках раёну не працуе 4 фельдшэрска-акушэрскія пункты.

**Раман Крыніцкі**

## РАСЕЙСКАЯ АКУПАЦЫЙНАЯ АДМІНІСТРАЦЫЯ НА БЕЛАРУСІ

Працягваецца выцясьненьне беларусаў з кіраўніцтва на ўсіх узроўнях улады і гаспадаркі. На беларускіх начальнікаў рэжым Лукашэнкі і руская разьведка ў Беларусі заводзяць уяўнае (ці праўдападобнае) дасье і нават крымінальныя справы, пра якія „вертыкальшчыкі"-беларусы ня ведаюць. (Ды каб і ведалі б, то з прычыны адсутнасьці нацыянальнага паняцьця ў галаве, не зразумелі б, што усім ім будзе канец.)

Верхавіна расейскай акупацыйнай адміністрацыі ў Беларусі выглядае так:

Кіраўнік адміністрацыі - **Лукашэнка савецкі русафіл і антыбеларус,** маёр **КГБ;**

Прэм'ер-міністар **Ярмошын - рускі,** выхадзец з **Расеі,** афіцэр **КГБ;**

Першы віцэ-прэм'ер **Кабякоў - рускі,** выхадзец з **Расеі, КГБ;**

Віцэ-прэм'ер па культуры і адукацыі **Замэталін - рускі,** выхадзец з **Расеі,** палкоўнік **КГБ, ФСБ;**

Віцэ-прэм'ер і Міністар Замежных справаў **Латыпаў - рускі,** выхадзец з **Расеі,** палкоўнік **КГБ;**

Міністар Унутраных справаў **Сівакоў - рускі,** выхадзец з **Расеі, маскоўскі** генэрал;

Міністар Абароны **Чумакоў - рускі,** выхадзец з **Расеі, маскоўскі** генэрал;

Міністар адукацыі **Стражаў - рускі,** выхадзец з **Расеі;**

Міністар Юстыцыі **Варанцоў - рускі,** выхадзец з **Расеі;**

Галоўнакамандуючы Ўнутранымі войскамі ў Беларусі **Жадобін - рускі,** выхадзец з **Расеі, маскоўскі** генэрал;

Намесьнік старшыні КГБ **Ерын - рускі,** выхадзец з **Расеі, маскоўскі** генэрал.

Службовы пэрсанал гэтага „ўраду" абстаўлены рускімі разьведчыкамі і агентамі КГБ-ФСБ. Такое ж самае „вымываньне" беларусаў адбываецца па ўсёй сістэме ўлады ў Беларусі, ва ўсіх кіруючых галінах гаспадаркі і выяўляе апераджальнасьць працэсу акупацыі перад усімі іншымі палітычнымі контрпрацэсамі на Беларусі. Сітуацыя, як думаюць некаторыя назіральнікі, ўсё больш і больш паказвае на высьпяваньне неабходнасьці ўзброенай барацьбы супраць акупантаў. Згодна меркаваньняў некаторых беларускіх палітыкаў і грамадзянаў Беларусі, калі беларусы радыкальна ня выступяць цяпер і калі рускім удасца канчаткова аформіць чарговы пакт „Молатава-Рыбэнтропа" ды абдурыць Захад, то ваяваць прыйдзецца, як чачэнцам- з усёй гнілой Расеяй.

**Мар'ян ВАНЬКЕВІЧ**

**("Беларускія Ведамасьці" №2, 2000г.)**

## Сіфілісу ўсе ўзросты пакорныя

Па захвораваннях сіфілісам на 100 тысяч насельніцтва Смаргонскі раён на працягу двух апошніх гадоў займае першае месца ў вобласці. Асабліва значнае распаўсюджванне гэтай венерычнай хваробы пачалося ў нас у 1993 годзе. За няпоўныя сем гадоў у раёне перахварэла больш 500 чалавек, у тым ліку 43 падлеткі.

Нярэдка бываюць выпадкі, калі сіфілісам хварэюць пажылыя людзі. Так, у мінулым годзе ў нас быў выяўлены адзіны ў Беларусі выпадак захворвання сіфілісам мужчыны ва ўзросце 93 гады.

**Кастусь Міхневіч**

## Затрымліваюць зарплату

У раёне ўскладняецца сітуацыя з выплатай зарплаты. Работнікам адукацыі, напрыклад, запазычына 39 мільёнаў рублеў, работ-нікам аховы здароў'я - 22 мільёны рублёў. Яшчэ горшае становішча з выплатай зарплаты калгаснікам.

Толькі ў трох гаспадарках заплацілі за люты і ў дзвюх - за сакавік.

**Сымон Канапелька.**

## Нас паменшала

За шесць месяцаў бягучага года на Смаргоншчыне нарадзілася 272 чалавекі, а памерла 478. Такім чынам, у раёне стала на 206 жыхароў менш.

**Раман Чункевіч**

# Першая кніга паэткі



***Выйшла ў свет першая кніга Алы Клемянок "Яны не ведалі мяне..." Паэтка доўгі час працавала ў Маладзечне ў газетах "Приборостроитель", "Наш дзень". Цяпер яна жыве ў Смаргоні.***

***Аснову зборніка склалі любоўная лірыка, вершы філасоўскай накіраванасці. Хочацца пажадаць Але Клемянок новых творчых поспехаў.***

***Прапануем увазе чытачоў два вершы з яе зборніка.***

* * *

Адгукніцеся мне, хто мяне
разумее!
Клічу я не сяброў аднадумцаў заву,
Не братоў па крыві, а братоў па
надзеі,
Тых, хто верай пустой не марыў галаву,
Чыя сэрцы баляць па радзімай
старонцы,
Па сляпых і глухіх (аж да гэтай пары!)
Цярплівасць твая, мой народзе,
бясконца,
Толькі сёння за гонар яе не бяры.
Няўтульны свой край непрыхільныя дзеткі
Самазванцам аддалі на сорам і гвалт
Я выходжу шукаць, ды не папраць-кветку,
Я збіраю братоў на апошні парад.

* * *

Паўночным Рым,
Загублены рабамі
І варварамі, прагнымі да
улады,
Разграблены
і зруйнаваны храмы,
Страх і бязвер'е
каля кожнай хаты;
Чыё пракляцце
над табой лунае,
Зямля мая,
счарнелая ад болю?
Край, дзе жалейка плача,
а не грае,
Дзе што ні поле-гэта
поле бою.
Прыніжана прыгонныя паэты
За хлеб надзённы
прадаюць сумленне,
А люд галодны
рыскае па свету,
Гандлюючы душою
і адзеннем.
Увесь сусвет,
імчыцца па спіралі,
І толькі мы -
нібы ў заклятым коле,
Няўжо мы свае
песні адыгралі?
Няўжо з яго
не вырвемся ніколі?

## Хто ёсць хто?

# Дыктатары

**ЦЯПЕРАШНІЯ:**

Фідэль Кастра (Куба)................ - 40 гадоў
Садам Хусейн (Ірак)................. - 20 гадоў

**БЫЛЫЯ:**

Кім Ір Сэн (Паўночная Карэя) ..- 49
Альфрэда Стрэснер (Парагвай) - 39
Іосіф Сталін (СССР).................. - 31
Парфірыа Дзіас (Мексіка)......... - 31
Рафаэль Трухільё (Дамініканская Рэспубліка)................................ - 31
Мао Цзэдун (Кітай).................. - 27
Нікалае Чаушэску (Румынія)... - 24
Беніта Мусаліні (Італія)........... - 21
Менгісту Марыям (Эфіопія).... - 17
Аўгусто Піначчэт (Чылі).......... - 16,5
Анастасія Самоса (Нікарагуа) - 16
Клод Дзювальё (Гаіці)............. - 15
Адольф Гітлер (Германія)....... - 12
Ідзі Амін (Уганда)........... - 8,5

## Параўнаем Колькі часу сярэдні работнік павінен працаваць, каб заплаціць за:

| | У Польшчы | У Венгрыі | У Расеі | На Украіне | У Беларусі |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 кг бульбы | 2 мін. 53 сек. | 6 мін. 13 сек. | 23 мін. 42 сек. | 24 мін. 40 сек. | 1 гадз. 28 мін. |
| 1 л малака | 13 мін. 6 сек. | 12 мін. 54 сек. | 35 мін. 8 сек. | 59 мін. 12 сек. | 1 гадз. 3 мін. |
| 1 кг белага хлеба | 8 мін. 42 сек. | 15 мін. 25 сек. | 52 мін. 42 сек. | 39 мін. 28 сек. | 45 мін. 31 сек. |
| 1 кг выразкі | 1 гадз. 55 мін. | 2 гадз. 9 мін. | 4 гадз. 41 мін. | 5 гадз. 58 мін. | 7 гадз. 35 мін. |
| 1 бут. піва | 15 мін. 54 сек. | 10 мін. 28 сек. | 32 мін. 29 сек. | 39 мін. 25 сек. | 39 мін. 27 сек. |
| 1 кВт/гадз. энергіі | 5 мін. 12 сек. | 2 мін. 34 сек. | 32 мін. 25 сек. | 2 мін. 21 сек. | 1 мін. 28 сек. |
| 1 куб. м газу | 1 мін. 39 сек. | 7 мін. 37 сек. | 1 мін. 35 сек. | 2 мін. 21 сек. | 4 мін. 30 сек. |

## Наша мінуўшчына

# Крэўскай уніі - 615 гадоў

615 гадоў назад, 14 жніўня 1385 года было заключана пагадненне паміж Вялікім Княствам Літоўскім (Беларуска-Літоўскай дзяржавай) і Польскім каралеўствам, вядомае пад назвай Крэўская ўнія. Што ж прымусіла абедзьве дзяржавы пайсці на заключэнне ўніі ці, інакш кажучы, саюза?

Спынімся на становішчы ў Польскім каралеўстве, сталіцай якога ў той час быў горад Кракаў. Польскі кароль Казімір Вялікі лічыў сябе пакараным Богам, бо не меў ні сына, ні дачкі. Каму перадаць карону? Нарэшце, пасля доўгіх ваганняў, свой выбар спыніў на пляменніку Людовіку. Стаўшы каралём, Людовік дабіваецца права пасля сваёй смерці перадаць карону адной са сваіх дачок.

Трэцяй дачкой Людовіка была Ядвіга, 1374 года нараджэння. 15 верасня 1384 года яна і была каранавана. Але хіба магла Ядвіга ў дзесяць гадоў кіраваць дзяржавай? Выхад быў адзін: знайсці ёй мужа, чалавека дарослага, разумнага, здольнага займацца дзяржаўнымі справамі. Кандыдатаў у мужы Ядвігі было чацвёра. І адзін з іх Ягайла - князь Вялікага Княства Літоўскага, уладар магутнай дзяржавы ва Усходняй Еўропе, тэрыторыя якой перавышала ў два разы Польскае каралеўства.

Атрымаўшы з польскага боку прапанову, Ягайла паслаў сватоў у Кракаў. Так і было дасягнута прынцыповае пагадненне паміж бакамі. А 14 жніўня 1385 года Ягайла ў прысутнасці дэлегацыі, а таксама сваіх братоў Скіргайлы, Карыбута, Лугвенія і Вітаўта падпісаў у Крэве унію.

12 лютага 1386 года Ягайла прыязджае ў Кракаў. 15 лютага ён змяняе праваслаў'е на каталіцызм, а імя Якаў - на Уладзіслава. 18 лютага бярэ шлюб з Ядвігай, а 4 сакавіка адбываецца яго каранацыя.

Дзякуючы гэтаму палітычнаму саюзу ўдалося ліквідаваць пагрозу з боку Тэўтонскага ордэну, перамагчы яго ў Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе і адкрыць гандлёвыя шляхі ў Заходнюю Еўропу. На ўсходзе Вялікага Княства з дапамогай Польшчы было лягчэй стрымліваць націск Маскоўскай дзяржавы. Адным з вынікаў Крэўскай уніі быў шырокі дыпламатычны выхад Вялікага Княства ў Еўропу, а таксама культурнае збліжэнне з іншымі краінамі свету.

Нарэшце, пасля ўніі больш інтэнсіўна пайшло шырыцца каталіцтва, якое пранікла сюды яшчэ пры Гедзіміне. Тысячы і тысячы паганцаў было хрышчана па рымскакаталіцкім абрадзе. У лютым 1387 года Ягайла падпісаў грамату аб заснаванні сямі парафіяльных касцёлаў у Віленскай дыяцэзіі, у тым ліку і Крэўскага касцёла Святога Яна, і надзяленні іх зямлёй.

**Віктар Шоць**











Малюнкі Валянціна Варанішчы

**Заснавальнік і рэдактар Віктар Шоць. Выходзіць адзін раз на месяц. Наклад 299 асобнікаў.**
**Адрас рэдакцыі: 231000 г.Смаргонь, вул.Гагарына, 8-39. Распаўсюджваецца бясплатна.**